Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 20.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **160.000** м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 5. Вільня, Нядзеля, 11-га лістапада 1923 г. Год I.

## Хто перамог?

У той мамэнт, калі папярэдні нумар нашае часопісі йшоў на машыну, прыйшла вестка аб тым, што, на аснове паразуменьня кіраўнікоў забастовачнага руху (П. П. С. і Цэнтралі Праф. Саюзаў) з урадам п. Вітаса, агульная забастоўка спынецца. Урад згадзіўся ўхіліць загад аб аддачы ў салдаты забаставаўшых кракоўскіх машыністаў і аб ваенна-палявых судох для іх. Кіраўнікі руху абяцаліся спыніць агульную забастоўку і прызваць работнікаў да ліквідацыі эканамічнае забастоўкі, ад якое ўсё узгарэлася. Урэшце, ўрад запэўніў работнікаў, што пойдзе на сустрэчу іх дамаганьням у справе павялічэньня заработнае платы.

Ужо з гэтага трэба зрабіць вывад, што тыя грамадзкія групы, якія абвесцілі *вайну забастоўцы*, пацярпелі няўдачу: ім не ўдалося перашкодзіць агульнай забастоўцы, ня гледзячы на іх ваяўнічыя адозвы і прызывы да ўсяго народу,—і *забастоўка дапяла сваей мэты*.

Але няўдача *працiўнікаў* забастоўкі, як палітычнага выступленьня ў імя канстытуцыйнасьці, а так сама вынік забастоўкі далёка *не раўназначны* з перамогай *ініцыятараў* агульнае забастоўкі. Выпадкі ў Кракаве, аружная барацьба работнікаў з высланым проці іх войскам, пралітая з абох бакоў кроў — гэта якраз тое, чаго ані П. П. С., ані Н. П. Р., ані Цэнтраля Праф. Саюзаў *не хацелі*, да чаго зусім *ня імкнуліся*.

Нядаўна мы пісалі (з ст. „Жыцьцё вучыць“), што забастоўка машыністаў, якая ўзьнялася супраць волі кіраўнічых работніцкіх арганізацыяў, гэта — знак таго, што партыі губляюць свае ўплывы на работніцкія масы. Кроў, пралітая на вуліцах Кракава, толькі йшчэ больш ярка падчыркивае справядлівасьць нашае думкі: народ, раз зварухнуўшыся з месца, йдзе шмат далей, чым таго хочацца яго павадыром, і разыйшоўшуюся стыхію вельмі трудна сьціхамірыць....

Дарма эндэцкія пісакі, прыкладам у „Gaz. Warsz.“, стараюцца абвінаваціць польскіх сацыялістаў у сьвядомай арганізацыі аружнае сутычкі работнікаў з войскам, кажучы, быццам факт, што сярод работнікаў было многа людзей, „добра ўладаючых аружжам“, паказывае на ўчасьце пэпээсаўскіх „стральцоў“. Гэта—сьвядомая прычэпка: бо-ж усе тыя работнікі, якія стралялі ў атакуючых уланаў, яшчэ год-два таму назад самі насілі жаўнерскі мундзір і хіба павінны былі ўмець карыстацца аружжам! І вось гэтае апошняе, гэтае *пачуцьцё сваей сілы*, якое збудзілася ў масах, у сувязі з фактам *адставаньня польскіх сацыялістычных партыяў ад настрояў і імкненьняў польскіх работнікаў*, і давяло да праліцьця крыві на вуліцах старое сталіцы Польшчы.

Сьцьвярджаючы, што бастуючыя работніцкія масы, астаўшыся глухімі да ўсіх прызываў „правіцы“, аднача з тым далёка выйшлі за межы мірнае палітычнае дэманстрацыі, вызначаная ім „лявіцай“, — мы павінны з кракаўскіх падзеяў зрабіць той вывад, што ў „пробе сілаў“ *не перамагла ані „правіца“, ані „лявіца“, а перамог нехта трэці*: *вуліца*.

Так, „вуліца“ аказалася гаспадаром палажэньня, бо абедзьве канкуруючыя партыйныя групіроўкі ня мелі сілы апанаваць ёю і павясьці яе за сабой. А гэта—грозны знак для ўсяго грамадзкага жыцьця Польскага гаспадарства...

І пэўне як польскія сацыялісты, так і польскі ўрад пасьля ўсіх неспадзевак апошняе забастоўкі зразумелі і аценілі вытварыўшаеся палажэньне, калі падпісывалі „міравую“: зразумелі, што кожная старана *адна* ня здольна ўціхамірыць народную стыхію, і затым пастанавілі *канкурэнцыю* замяніць на ціхае, нявідочнае для „трэйцяга“ *супрацоўніцтва*, на *каапэрацыю*, як гэта ўжо раз было, калі з Усходу наступалі на Польшчу чырвоныя арміі....

Але тады сацыялісты ўваходзілі ў склад коаліцыйнага ўраду. Ці апошня крывавыя падзеі не давядуць і цяпер да нейкага новага кампрамісу процілежных палітычных кірункаў, зразумеўшых сваё бязсільле?

## Буджэт пана мін. Кухарскага.

### I. Буджэт і „пачуцьцё рэальнасьці“.

„Чалавек складаецца з цела, душы... і машны“, кажа дасьціпны аўстрыяцкі пісьменьнік Альтэнбэрг.

Дзеля гэтага скажам мы, сучасны чалавек павінен пільнаваць здароўе ня толькі фізычнае і духоўнае, але—і эканамічнае...

А новы, заваёўваючы сабе ўсё больш староньнікаў, сьветапагляд, найлепш фармуляваны Марксам, кажа нават, што „эканамічнае здароўе“ кожнага чалавека акрэсьляе ня толькі яго цела, яго фізычнае здароўе, але і яго здароўе духоўнае,—самую яго душу!...

Дапраўды—можна сказаць, што „машна“, г. зн.—даходы і выдаткі чалавека, ня толькі характарызуюць, але ў значнай меры і акрэсьляюць характар чалавека.

Пакажэце нам прыхода-расходную кніжку таго ці іншага пана, скажэце, скуль і як—з якой працы, ці... „няпрацы“ чалавек дабывае грошы, і як і на што іх выдае,—і мы будзем найлепш—бо запраўды *рэальна*—ведаць, што гэта ёсьць за чалавек, а ня тое, чым ён хоча казацца, за што сябе выдае...

Найлепшай характарыстыкай чалавека зьяўляецца яго ў шырокім сэнсе выразу—*„гаспадарка“*...

Але-ж тое самае, толькі йшчэ ў шмат вялікшай меры трэба сказаць і аб кожнай дзяржаве,—аб дзяржаўнай гаспадарцы.

Гэтак званы гаспадарствены буджэт—каштарыс гаспадарственых даходаў і расходаў—лепш за ўсё сьведчыць аб тым, што такое ў запраўднасьці ёсьць данае гаспадарства, якія яго запраўдныя, а ня толькі дэкляруемыя ў розных унутраных маніфэстах, ці экспозэ, або ў заграмічных „дыплёматычных“ заяўленьнях,—мэты і імкненьні; ці ўмее яно само кіраваць сваей машной, каб утрымліваць у парадку, у здароўі свае „цела“ і сваю „душу“,—ці мае дзеля гэтага запраўдную самастойнасьць і незалежнасьць свайго дзяржаўнага быту; ці гэты быт дзеля таго мае запраўдную трываласьць;—ці, урэшце, данае гаспадарства прадстаўляе і ў якой меры тую ці іншую вартасьць і карысьць як для самога сябе, для сваіх грамадзян, так і для сваіх суседзяў,—для ўсяго сьвету...

З гэтага пункту гледжаньня буджэт кожнай дзяржавы прадстаўляе вельмі цікаўную рэч. Але буджэт таго гаспадарства, у якім мы самі жывем, грамадзянамі якога мы самі зьяўляемся, як кожнаму зразумела, яшчэ ў шмат вялікшай ступені цікаўны,—дзеля таго, што ад гэтага буджэту, ад таго, з якіх „пазыцыяў“ складаецца „росьпісь яго даходаў і расходаў“, у вельмі значнай меры залежаць—ня толькі дабрабыт кожнага з нас, яго грамадзян, але і нашыя—цела і душа... і ня толькі ў настаяшчым, але йшчэ больш—у будучым!...

Вось дзеля таго кожнаму сьвядомаму грамадзяніну трэба вельмі ўважна сьлядзіць за штогоднімі буджэтамі свайго Краю, сачыць і ведаць, куды і на што выдаюцца ўрадам усе тыя грошы, што ён зьбірае з кожнага з нас і са ўсяе маемасьці дзяржавы, якая прадстаўляе ў Рэспубліцы ўласнасьць кожнага грамадзяніна і ўсяго народу разам.

Бо ў Рэспубліцы кожны грамадзянін зьяўляецца адказным за тое, які скарб, якія „цела“ і „душа“ у яго гаспадарстве—ці здоровыя, ці не...

Вось дзеля чаго прадстаўнікі народу ў кожным парлямэнце заўсёды галоўную ўвагу зьвяртаюць на гэтыя штогадовыя буджэты, якія яны разглядаюць гэтак надрабязна, спрачаючыся іншы раз літэральна *з-за аднэй маркі*, ці *аднаго франка*—гэтым адным вычыркнутым франкам іншы раз змушаючы да адстаўкі цэлыя габінэты...

Вось дзеля чаго—першае і найбольш дарагое права народнага прадстаўніцтва — гэта гэтак і званае *„права машны“*, права буджэту,—права дазваляць ці недазваляць ураду рабіць тыя ці іншыя выдаткі,—а калі дазваляць, дык толькі дакладна і сьцісла на тое, на што іх назначыла з гары, на цэлы год напярод воля народу—у асобе свайго парлямэнту, бо ад гэтага запраўды залежыць—як „цела“ таксама і „душа“—уся дзяржаўная гаспадарка, уся палітыка ўраду, ўсё жыцьцё Краю, усе эканамічнае фізычнае і духоўнае здароўе яго народу.

---

Трэба зусім шчыра сказаць, што Польшча дагэтуль ня *мела ані воднага запраўднага буджэту*, ня гледзючы на тое, што самастойна і незалежна істнуе ўжо амаль ня пяць гадоў!...

Ані воднага разу польскі ўрад ня прадставіў Сойму *гадавога рэальнага буджэту*, і ані воднага разу польскі парлямэнт (ці ўстаноўчы Сойм) ня выкарыстаў у поўнай меры свайго права мець рашучы голас у справе дзяржаўнае гаспадаркі.

З гэтага, ня кажучы нічога аб прычынах гэтага зьявішча, трэба зрабіць адзіны толькі, але зусім об'ектыўны вывад: *ніякай запраўднай дзяржаўнай гаспадаркі ў Польшчы дагэтуль не вялося*!

Ніякога запраўднага рэальнага—кантролю з боку Парлямэнту за „гаспадараваньнем“ польскіх урадаў ня было!...

Але з гэтага ўсяго трэба зрабіць і далейшы вывад: калі ня было ў Польскай дзяржаве ані рэальных буджэтаў, ані іх рэальнага кантролю, дык ня было *запраўднай рэальнасьці і ў самым істнаваньні Польскае дзяржавы, як самастойнай і саматрывалай эканамічна гаспадаркі,—ня было ў ім, зразумела—і першага, акрэсьліваючага ўсе іншыя—фізычнае і духоўнае—здароўя эканамічнага*!..

Ужо з аднаго гэтага мы павіны былі напэўна чакаць, што гэткая дзяржава павінна была-б *хварэць на гэткую гаспадарчую хваробу*, *якая іменна* ўсё *больш памяншала-б рэальнасьць самага істнаваньня гаспадарства*...

І дапраўды, няма ў Польшчы чалавека, які-б ня адчуваў гэтай агульнай хваробы, няма ўжо ані воднага палітыка, ці публіцыста, акі-б не гаварыў, ня пісаў аб гэтым *зьмяншэньні дзяржаўна-гаспадарчай рэальнасьці Польшчы*, *паграж*а*ючы* ёй *урэшце і поўнай утратай апошняй*...

Найлепшым выражэньнем меры эканамічнага здароўя, гаспадарчай рэальнасьці, сілы і вартасьці тэй ці іншае дзяржавы зьяўляецца яе *валюта* (што іменна і значыць „вартасьць“, „сіла“).

І вось кожны з нас на ўласнай скуры ведае, як пужаючы-жудасна, як руйнуючы-шкодна *зьмяншаецца рэальнасьць гэтай валюты*, як папросту *гарыць* у кожнага ў руках польская марка...

Але ён павінен ведаць, што ў гэтым зьявішчы *адбіваецца* іменна жудасна-руйнуючае *агульнае зьявішча*—зьмяншаньне галоўнае, гаспадарчае рэальнасьці самога Польскага гаспадарства.

Скуль-жа ўзялося гэтае фатальнае зьявішча?

Ёсьць цэлы рад прычын гэтага агульнага зьявішча, так сказаць, *„няпоўнай рэальнасьці“*, ўсё *зьмяншаючаеся рэальнасьці* паўстаўшай з мёртвых Польшчы.

Можна сказаць, што *самы час* гэтага „змёртвыхустаньня“, агульныя варункі таго „гістарычнага інтэрмэццо“, у якім створана саюзьнікамі-пераможцамі „Вялікая Польшча“, якой як быццам задана найтруднейшая, амаль нявырашымая задача—утрымаць сваё дзяржаўнае істнаваньне *і пасьля* „гістарычнага антракту“—

дуць галасаваць за роспуск Сойму; сацыялісты і дэмакраты падтрымоўваюць урад.

---

Саксонскі ўрад выслаў да дзяржаўнага трыбуналу скаргу з прычыны неканстытуцыйнага зваленьня Саксонскага ўраду праз цэнтральны ўрад Нямецкай Рэспублікі.

---

Нацыяналісты згаджаюцца ўвайсьці ў склад новага габінэту з гэткімі варункамі: 1) адстаўка Штрэзэмана і назначэньне канцлера-нацыяналіста, 2) адстаўка прэзыдэнта Эбэрта і назначэньне выбараў новага прэзыдэнта.

Дэмакратычная партыя выказваецца проці супрацоўніцтва з нацыяналістамі, а народная згаджаецца на гэтае супрацоўніцтва. Цэнтр займае нявыразнае становішча.

---

Прафэсыянальныя саюзы выдалі адозву да работнікаў, заклікаючы іх да абароны канстытуцыі і рэспублікі.

---

У Бэрліне адбыліся вялікія забурэньні. Разграблена шмат склепаў і прыватных памешканьняў. Мясцамі пагромы мелі характар антыжыдоўскі. Паліцыя ў некаторых выпадках не магла ўтрымаць парадку. Арыштавана каля 300 асобаў.

---

Уплывы Шрэзэмана зусім упалі. Рэйхсвэр дамагаецца ўтварэньня нацыяналістычнага габінэту. Нават народная партыя нездаволена яго палітыкай. Ген. Лосаў у размове з адным паслом, зазначыў патрэбу пашырырэньня улады баварскага ўраду на ўсю Нямеччыну; правы ўрад абвесьціць вайну з Францыяй, а тады ўвесь сьвет дапаможа Нямеччыне.

### Пераварот у Баварыі.

8-га лістапада раніцаю на сабраньне, на якім казаў прамову Кар, прыбыло восем грузавых самаходаў з узброенымі фашыстамі. Пасьля таго, як Кар скончыў прамову, у залю ўвайшоў Гітлер на чале 600 узброеных людзей, праклямаваў зваленьне сучаснага баварскага ўраду, і абвесьціў новы ўрад, які складаецца з быўш. прэзыдэнта паліцыі Понэра, як начальніка дзяржавы, ген. Людэндорфа, як галоўнага камэнданта, ген. Лосава, як міністра абароны, Гітлера, як палітычнага кіраўніка і Зэйсэра, як міністра паліцыі. Фашыстаўскія баявыя аддзелы займаюць горад.

Правыя баявыя саюзы, сабраныя ў паўночнай Баварыі, дамагаюцца паходу на Бэрлін.

### Справа адшкадаваньняў.

Справа скліканьня камісіі рэчазнаўцаў з учасьцем Злучаных Штатаў не кратаецца з месца з прычыны няпрыхільнага становішча Францыі.

### ВЭНГРЫЯ.

У Вэнгрыі выкрыты загавор крайніх правых, які меў на мэце зваліць сучасны ўрад і захапіць уладу ў свае рукі. На чале загавору стаяў пасол Уляйн. Загаворшчыкі мелі зносіны і працавалі ў кантакце з баварскімі і аўстрыяцкімі фашыстамі.

## З Польскага Сойму.

Паседжаньне Сойму 6-га лістапада было запоўнена дыскусіяй над экспозэ міністра фінансаў адносна да ўнесенага ў Сойм праекту буджэту на 1924 год.

Пасол **Вышыкоўскі** (група Домбскага) лічыць праект пана Кухарскага бухгалтэрыйным выпрацаваньнем, зробленым насьпех так, каб даходы правышалі расходы. Гэткі буджэт — нерэальны. Бухгалтэрыйныя ашчаднасьці застануцца на паперы, а вынікам будзе аслабленьне абаронных сілаў дзяржавы і бязграматнасьць. Нават міжнародны капітал, як гэта выясьнілася з няўдачаю заграмічнай пазычкі, ня мае даверыя да ўраду, які вядзе крайнюю рэакцыйную і шовіністычную палітыку.

Пас. **Рудзінскі** (Wyzw.), кажа, што гэты выняткова буджэт разглядаецца ў выняткова час, калі вуліцы некаторых гарадоў Польшчы заліты крывёю. А да гэтага давяло 6-ці месячнае ўрадаваньне „польскай большасьці“. Урад, які ня мае за сабою большасьці ў народзе, не падаўся ў адстаўку, але толькі рэарганізаваўся і давёў Польшчу да сучаснага палажэньня. Крытыкуючы буджэт, прамоўца зазначае, што адсутнасьць дэфіцыту п. Кухарскі атрымаў папросту вычыркнуўшы трэцюю частку расходаў, патрэбных для падтрыманьня дзяржавы. Міністар фінансаў вядзе перагаворы з багатымі клясамі, каб плацілі падаткі, але-ж Польшча мае права заставіць плаціць падаткі, а не прасіць аб гэтым. Урадовая большасьць сабатуе ўсе падатковыя ўставы. Калі сучасны ўрад атрымаў уладу, папяровых грошай было выпушчана на $2^1/_2$ трыльёны, а цяпер 20 трыльёнаў. Марка абнізілася ў 40 разоў. І вось цяпер, у мамэнт забастовак па ўсім краі, міністар фінансаў прадстаўляе сфальшаваны буджэт, сыплючы пяском у вочы грамадзянства. Прамоўца востра выступае проціў ашчаднасьці ў арміі, нішчэньня асьветы, поўнага спыненьня адбудовы Краю, запрапашчэньня зямельнай рэформы і г. д.

Фінансавая палітыка ўраду санкцыянуе ўхіляньне валадаючых клясаў ад платы падаткаў. Уся ўрадовая палітыка скіравана да таго, каб зьнішчыць працоўныя масы і дэмакратыю, а забастоўкамі справакаваць масы да барацьбы, каб на пралітай крыві ўмацаваць панаваньне капіталістаў і абшарнікаў, якія клусьцеюць ад урадовых крэдытаў. Плады гэтай палітыкі вось якія: у бок сьпіхнулі незалежную Польшчу, трыумфуе палітыка моцнага кулака адносна працоўных і ўжо цяпер урад мае адвагу правакаваць працоўны народ, абніжае войска да ролі паслугачых, каб стралялі ў работнікаў і сялян. Але народ выдабудзе з сябе сілу, якая зьмяце вас. Гэткаму ўраду ад імя працоўнага народу належыцца ня толькі недаверые, але і ганьба.

Эндэк **Зьдзехоўскі** лічыць заслугаю ўраду, што ў тэрмін прадставіў буджэт. Кажа аб большасьці, якая мурам стане за ўрадам і з буджэту вельмі задаволена. Трэба павялічыць пасрэдныя падаткі. Просіць аб ухваленьні новых падаткаў, не „нарушаючы маёнткаў абываталяў“.

Пасол **Жулаўскі** (P.P.S.) лічыць, што ўнясеньне ў тэрмін буджэту зьяўляецца не заслугай, а абавязкам ураду. Аздараўленьне дзяржаўных фінансаў, згодна з урадовым праектам, мае адбыцца коштам працоўных клясаў. Буджэт нерэальны. Няма ў ім мовы аб францускай пазычцы, не прадбачыць новай уставы аб пэнсіях. Робяцца толькі неразумныя зьмяншэньні выдаткаў і бароніць заможныя клясы. Сучасны ўрад і ўрадовая большасьць працівяцца павялічэньню падаткаў і работніцкай платы, бо робяць добрыя інтарэсы на інфляцыі. Прамоўца таксама гаварыў аб дарагоўлі і востра крытыкаваў становішча ўраду адносна работніцкіх забастовак. Урэшце прачытаў гэткую рэзалюцыю:

„Сойм сьцьвярджае, што сучасны ўрад сваей фінансавай палітыкай бароніць інтарэсы багатых клясаў, выклікае далейшы спадак маркі і далейшую дарагоўлю, ня можа памысна разьвязаць валютнага пытаньня ў Польшчы і зьяўляецца прычынай усё большай нэндзы і адчаю ў краі.

Давёўшы сваей палітыкай да адчаю працоўныя масы і змусіўшы іх да забастоўкі, ўрад для залатвеньня парахункаў з работніцкай клясай, — распачаў бязпраўныя гвалты, зламаў канстытуцыю і ўрэшце ўчыніў крывавую разьню ў краі.

Сьцьвярджаючы, што гэтая палітыка сучанага ўраду вядзе край да катастрофы, Сойм заклікае ўрад, каб падаўся ў адстаўку“.

Пасол **Квяткоўскі** (хадэк) бараніў ўрадовую палітыку.

Праект буджэту адасланы да буджэтнай камісіі.

## З газэт.

### Аб „пробе сіл“.

Уся польская прэса горача адгукнулася на выпадкі, якія мелі месца за апошнія дні ў сувязі з агульнай забастоўкай. Правыя газэты з „Gaz. Warsz.“ наперадзі стараюцца прадставіць вынікі забастоўкі, як перамогу ўраду і партыяў, на якіх урад апіраецца, даводзячы, што

> „агульная забастоўка не ўдалася, нідзе ня была агульнай, шмат дзе яе зусім ня было, да таго-ж сумленьне сацыялістаў і іх прыхільнікаў абцяжае праступна і разам з тым бязмэтна пралітая ў Кракаве кроў. Бяз сумліву, урад ня выкарыстаў у поўнай меры здабытае перавагі і гэтым даў магчымасьць прыгнечаным сацыялістам рабіць добрую міну і хваліцца—з некаторым відам справядлівасьці—быццам то атрыманай перамогай“.

У чым выяўляецца гэты „від справядлівасьці,“ „Gaz. Warsz.“ ня кажа. Паводле-ж другога эндэцкага органу, „Gaz. Por.“, да выступленьня работніцкіх арганізацыяў проці ўраду ідэйна далучыліся нават... польскія кансэрватысты!

> „Да ўраду, які апіраецца на нацыянальную ідэю, з роўнай ненавісьцяй і няпрыхільнасьцяй адносіліся як кракаўскія сацыялісты і камуністы, так і тамтэйшыя дэмакраты і кансэрватысты.
>
> „Адны падбуралі цёмныя масы да неаблічальных выступленьняў, другія паблажліва глядзелі на гэту агітацыю“.

Як відаць, на старане работнікаў і іх пратэсту проці неканстытуцыйных загадаў улады апынуліся блізу ўсе польскія партыі, як левыя, так і тыя правыя, што не ўваходзяць да сучаснага ўраду. І гэта тым больш гнявіць эндэкаў, якія, вустамі „Rzecposp.“, дамагаюцца арышту і аддачы пад суд паслоў з П. П. С.— Баброўскага і Марка.

Гэта злосьць найбольш выяўляе фальшывасьць эндэцкіх заяваў, што „забастоўка не ўдалася“. Наадварот, ініцыятары забастоўкі ў асобе П. П. С. зусім здаволены вынікамі яе. Так, у „Robotn.“ чытаем:

> „Партыя сьцісла вызначыла сваю мэту ў гэтай барацьбе. Мы ня зьбіраліся агульную забастоўку абярнуць у рэвалюцыю. Мы ведаем, што масы страшэнна раздражнены палітыкай сучаснага ўраду, аднак, мы ўсімі сіламі імкнемся да таго, каб недапусьціць у Польшчы да крывавых і страшных дазнаньняў рэвалюцыі з яе неаблічальнымі вынікамі для маладое дзяржавы і для работніцкае клясы. Мэтай забастоўкі было адно толькі жаданьне прымусіць урад да ўступак, якія-бы палажылі канец беззаконаму ламаньню забастоўкі чыгуншчыкаў і давялі-бы да перагавораў у справе іх эканамічных дамаганьняў.
>
> „Гэтае мэты мы дапялі. Забастоўка чыгуншчыкаў ня зломлена“.

Пад той час, як правыя часопісі віну праліцьця крыві ў Кракаве ўскладаюць на сацыялістаў і іх прыхільнікаў, левыя газэты вінавацяць у гэтым урад. Робіць гэта ня толькі „Robotnik“, але і лібэральны „Kurjer Poranny“. Апошні ў абшырнай перадавіцы на гэту тэму, паміж іншым, робіць гэткія ўвагі з прычыны кракаўскіх падзеяў:

> Учарашні дзень вельмі пагражаючым спосабам пацьвярдзіў тую ачывістую праўду, што, калі ніколі нельга было ўпраўляць Польшчай пры помачы кулака і аружжа, дык тым менш можна лятуцець аб гэтым у цяперашнія часы. Перасадка на рэспубліканскі грунт мэтадаў Івана Грознага, Міколая I ці Леніна, Кромвэля ці Робэсп'ера, хоць-бы і Муссоліні ці Прымо дэ-Рывэры,—засуджана напярод на трагічныя вынікі, трагічныя ў роўнай меры як для гаспадарства, так і для тых, хто пазволіць падбіць сябе на гэткі шалёны эксперымэнт. Польшча можа істнаваць толькі як арганізацыя волі, абапертая на праве; тыя, каго воля народу паклікала да ўлады, могуць быць толькі вартаўнікамі гэтага права і гэтае свабоды і могуць рахаваць на падтрыманьне іх усім грамадзянствам, на послух, на маральную павагу пастольку, паскольку сумленна і акуратна выпаўняюць гэты абавязак імем цэласьці народу“.

Умяркавана-лібэральны „Kurjer Polski“ кажа, што

> „павага ўраду Вітаса ад гэтае спробы не ўзмацавалася“.

## Агляд жыдоўскай прэсы.

*(Словы і чыны.—Адстаўка міністра Глонбіньскага і „numerus clausus“. — Змаганьне двух лагераў.— Нацыянальнае пытаньне ў Польшчы. — У часе крызісу).*

„Unzer Gedank“ востра атакуе Польскую Сацыялістычную Партыю за яе двухлічную палітыку, адносна да жыдоўскіх культурных пытаньняў. Газэта цьвердзіць, што гэтая партыя, здольная да пекных словаў, мяняе свой фронт, як толькі прыходзіць за чынаў. Паседжаньне асьветнай Камісіі, на якой прадстаўнік P.P.S. (кажучы ў скобках—таксама і пасол Лянгер з „Wyzwolenia“) выступаў проціў удзяленьня субсыдыяў жыдоўскім народным школам, было яскравым доказам гэтага.

У канцы „Unzer Gedank“ зварочваецца да віленскіх P. P. S. гэткімі словамі:

> „Цікава было-б ведаць, як на гэтае пытаньне глядзяць P. P. S. з Віленшчыны? Край наш засеяны праз некалькі нацыянальных меншасьцяў, якія ня гледзячы на рэпрэсіі і прасьледаваньні будуюць энэргічна сваю школу і разьвіваюць культуру.
>
> Віленскія пэпээсы ў справах нацыянальных зьяўляюцца больш левымі, чым іх варшаўскія таварышы. Чаму-ж адкрыта ня выкажуцца ў гэтай справе? Чаму не выступаюць з адпаведнаю дэклярацыяю?“

У інтэрв'ю з супрацоўнікам „Unzer Frajnd“ пасол Выгодзкі цьвердзіць, што адстаўка міністра асьветы Глонбіньскага, зьяўляецца вынікам ганебнай компромітацыі гэтага міністра ў справе „numerus clausus“.

Пасол Фростіг на шпальтах „Naszego Przeglądu“ робіць выразную прапазіцыю хьенапястоўскаму ўраду супрацоўніцтва з „Жыдоўскім Колам“.

У канцы артыкулу пасол Фростіг кажа:

> „З нашага боку было-б недаруемым грахом, калі-б мы, прыймаючы пад увагу і інтэрас дзяржавы і наш уласны спэцыфічны інтэрас, да гэтага чыннага супрацоўніцтва ня прыступілі. Сьмела можам сьцьвердзіць, што жыды ня хочуць, каб іх прадстаўнікі ў Сойме трымаліся пасыўна, альбо задаволіліся толькі крытыкай, заместа таго, каб казаць, як і што павінна зрабіцца. Аднак ці гэтага паважнага супрацоўніцтва жыдоў хочуць і польскія партыі? На гэтае пытаньне мы павінны атрымаць адказ ужо ў бліжэйшыя дні“.

А дзеля таго, што галоўны публіцыст „Naszego Przeglądu“ цьвердзіць, што артыкул пасла Фростіга ёсьць выражэньнем ягоных асабістых паглядаў, гэта даказвае толькі, што ўнутры „Жыдоўскага Кола“ змагаюцца паміж сабою два лагеры: рашучая апазіцыя з паслямі Грінбаўмам і Выгодзкім на чале і опортуністычны лагер, які складаецца з галіцыйскіх махераў.

„Najer Hajnt“ зьмяшчае артыкул пасла Грінбаума, у якім паміж іншымі чытаем:

> Для кожнага об'ектыўнага обсэрватара становіцца ясным, што нацыянальная справа зьяўляецца адным з найвышэйшых пытаньняў у Польшчы. Ня можа быць мовы аб тым, каб дайшло да нармальнага і спакойнага палажэньня ўва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця, пакуль гэтае пытаньне ня будзе вырашана і найбольш жыцьцёвыя дамаганьні нацыянальных меншасьцяў ня будуць задаволены“.

Вядомы дзеяч на культурнай і прасьвет-

